# Тыднёвік Магілёўскі

№ 5 (120) 29 чэрвеня 2001 г. Кошт 80 руб.


## Каго паслухае мясцовая ўлада





Фота IREX

*22 чэрвеня Кансультатыўная Рада апазыцыйных палітычных партыяў прыняла адмысловую Заяву з нагоды недэмакратычнага характару фармiраваньня выбарчых камісіяў.*

*У ёй, між іншым, зазначаецца: "Папулярнасьць А.Лукашэнкі імкліва падае. На сёньняшні дзень яго рэйтынг не дасягае нават 20%. Ён ня мае ніякіх шанцаў атрымаць перамогу на годных і адкрытых выбарах. Таму правячы рэжым імкнецца захаваць ягоную ўладу шляхам татальнай фальсыфікацыі вынікаў галасаваньня".*

*Далей заяўнікі прыводзяць лічбу прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, якія не патрапілі ў склады камісіяў рознага ўзроўню – 600 чалавек (у нашай вобласьці блізу 70). Заўважаецца, што пэрсанальны склад сёньняшніх камісіяў "на 90 адсоткаў паўтарае склад камісіяў, якія працавалі на папярэдніх выбарах".*

*Рада робіць выснову, што калі не зьмяніць сытуацыю, то фальсыфікацыя выбараў вынікаў на карысьць Лукашэнкі будзе забясьпечаная. Таксама ў заяве ўтрымліваецца зварот да мясцовых уладаў з патрабаваньнем неадкладна спыніць захады супраць грамадзянаў і парушэньні заканадаўства аб выбарах: "Наступіць час, калі прыйдзецца адказваць за гэтыя дзеяньні".*

*Напрыканцы заяўнікі зьвяртаюцца да КНГ АБСЭ ў Беларусі з просьбаю паінфармаваць краіны АБСЭ аб чарговым грубым парушэньні правоў беларускіх грамадзянаў з боку рэжыму.*

***Паводле радыё "Свабода"***

***P.S. Гэтыя здымкі прыйшлі ў рэдакцыю ў адзін дзень. Сымбалічна?.. На першым: моладзь зьбірае выбарчыя подпісы. На другім: улада рыхтуецца да ваеннага параду. Адны хочуць пераменаў, іншыя – так званай стабільнасьці...***

## Пацыенты вызначыліся

*Валянціна Шчэтнікава, магілёўская актывістка адной з групаў па збору подпісаў за вылучэньне дэмакратычнага прэтэндэнта на пасаду прэзыдэнта, наведала студэнцкі інтэрнат будучых машынабудаўнікоў па вул. Касманаўтаў. Яна спакойна прайшла ў будынак, чым пазьней усе яе суразмоўцы былі нямала зьдзіўленыя. Справа ў тым, што рэктарат аддаў загад аб узмацненьні рэжыму – менавіта каб ускладніць наведаньне інтэрната для невядомых зборшчыкаў подпісаў. Іншая рэч, калі спатрэбіцца прайсьціся з падпіснымі лістамі даверанай асобе ад самога рэктарату. За каго ён будзе зьбіраць подпісы, як гаворыцца, здагадайцеся з 3-х разоў.*

*Яшчэ далей пайшлі ў некаторых школах. У 35-й, напрыклад, дырэктар Р.Краско, выступаючы на пэдсавеце, параіла калегам перад летнімі вакацыямі падумаць над тым, дзе яны зьбіраюцца працаваць пасьля выбараў. У адказ на разгубленыя погляды настаўнікаў (маўляў, у чым справа?) яна патлумачыла: ад нас чакаюць 150 подпісаў за Лукашэнку! Іх, гэтых подпісаў, тут жа й зьбіралі – пасьля пэдсавету, каля касы, дзе выдаваліся летнія грошы.*

*Нарэшце, у нас ёсьць інфармацыя пра скіраваную выбарчую актыўнасьць на карысьць Лукашэнкі з боку гал. доктара знакамітага "Пячэрска" А.Кавалёва. Яго якраз можна "зразумець": сытуацыя ў гэтай спэцыфічнай лячэбніцы ў сэньсе ўмоваў існаваньня і таго, што называецца "матэрыяльнай базай", проста жахлівая. Таму ня зробіш – не атрымаеш.*

*Але ж ці варта заходзіць так далёка, каб прымушаць падпісвацца пацыентаў...*

***Аляксандар АЛЕКСАНДРОВІЧ,***
***карэсп. "БДГ" – спэцыяльна для "ТМ"***

## Ня памяць, аднак, вінаватая

24 чэрвеня, калі ў Магілёве адзначаўся Дзень моладзі, мясцовыя актывісты грамадзкага аб'яднаньня "Моладзь Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі" правялі апытаньне сярод удзельнікаў сьвяткаваньня.

Увечары на Савецкай плошчы і ў парку Горкага яны задавалі людзям пытаньні на тэму надыходзячых прэзыдэнцкіх выбараў у краіне. Усяго было апытана 503 чалавекі. Як высьветлілася, большасьць рэспандэнтаў ня лічыць гэтыя выбары значнай падзеяй у палітычным жыцьці – 54%. Адваротна думаюць 32% апытаных. Ня ўсе здолелі дакладна адказаць, на які дзень прызначаныя выбары. А на пытаньне, ці будуць маладыя людзі ўдзельнічаць у выбарах непасрэдна, "так" адказалі 52%. Астатнія 48% ці ня прыйдуць на выбарчыя ўчасткі, ці яшчэ вагаюцца. З тых, хто зьбіраецца галасаваць 9 верасьня, абсалютная бальшыня – 90% – будзе галасаваць супраць Лукашэнкі. Спасярод апытаных 7-мі міліцыянтаў ніводзін ня ведаў дакладнай даты выбараў, але ўсе яны сказалі, што прыйдуць галасаваць.

На працягу апытаньня была праведзеная й жартаўлівая акцыя. Сьвяткуючых маладых людзей запэўнівалі, што кожны з тых, хто прыпомніць хаця б адно абяцаньне Лукашэнкі, якое той выканаў, атрымае па 100 сапраўдных даляраў. А пакуль усім жадаючым былі раздадзеныя самаробныя "купюры", якія меліся быць абмененыя на сапраўдныя пры выкананьні вышэй пазначанай умовы. Усяго было раздана каля 600 "банкнотаў", аднак на працягу вечара ніхто не зьвярнуўся па абмен.

***Аляксей ГУБКО,***
***старшыня гарадзкога ГА "Моладзь АГП"***

## У вольным горадзе можна ўсё

Увечары 25 чэрвеня міліцыя ачапіла жылы будынак, у якім знаходзіцца крычаўская недзяржаўная газэта "Вольны горад". Ініцыятыўная група Сямёна Домаша, якая мела прытулак у той жа кватэры, тэрмінова ратавала падпісныя лісты й дакумэнты.

Рэдактару газэты Сяргею Няроўнаму, які выйшаў на лесьвічную пляцоўку, было паведамлена, што пасьля таго, як прыедзе пракурор з санкцыяй, будзе праведзены вобыск. Пракурор прыехаў праз гадзіну, але дакумэнтальнай санкцыі наператрус не прывёз, а прапанаваў упусьціць міліцыянтаў у кватэру. С.Няроўны вёў размову з пракурорам Розанавым і начальнікам крычаўскай міліцыі Бутрымавым. Супрацоўнікі газэты спрабавалі запісаць размову на дыктафон, але гэтаму перашкодзіў міліцэйскі начальнік. Урэшце міліцыянты зьехалі, але паабяцалі, што ўжывуць у будучыні слаўныя мэтады.

Што дакладна зьявілася прычынай панядзелкавага "наезду" у Крычаве – незадаволенасьць уладаў (дарэчы, чарговая) дзейнасьцю недзяржаўнай газэты ці праца мясцовай ініцыятыўнай групы аднаго з кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта – пакуль засталося невядомым.

***Паводле радыё "Рацыя"***



25 чэрвеня, Крычаў

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ АД «ЭНДА»**

## ХТО НЯ ХОЧА

больш дыхаць брудным паветрам, бачыць кучы сьмецьця ў сваім горадзе, непакоіцца, спажываючы рыбу з Дняпра – ДАЛУЧАЙЦЕСЯ!

Каб Магілёў застаўся чыстым і прыгожым месцам для здаровага жыцьця, распачала працу ЗЯЛЁНАЯ ПАШТОВАЯ СКРЫНЯ. Усю экалягічную інфармацыю, якая закранае наш горад, якая хвалюе вас, якую неабходна зрабіць набыткам галоснасьці і давесьці да грамадзкай думкі, ДАСЫЛАЙЦЕ НА АДРАС: 212022, МАГІЛЁЎ 22, А/С 61.

Мы прачытаем усе лісты. Інфармацыю возьмем да ведама. Паімкнемся правесьці сваё расьсьледваньне і знайсьці адказ.

Самыя набалелыя і актуальныя матэрыялы будуць надрукаваныя на старонках нашага інфармацыйнага бюлетэню "Гарадок М".



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Амаль паўтысячы прадпрымальнікаў-гандляроў магілёўскіх рэчавых рынкаў падпісаліся пад патрабаваньнем зьнізіць падаткавы аброк, які быў нядаўна ўведзены чарговым дэкрэтам (Лукашэнка, праўда, спадзяваўся ледзь не на ўдзячнасьць, бо дэкрэт падаваўся як клопат аб прыватніках). Ды й мясцовая ўлада, у чыім распараджэньні аказалася ўстанаўленьне новых ставак падаткаў, перастаралася. Паказальна і тое, што за апошнія гады колькасьць прыватнікаў значна скарацілася ў выніку як папярэдніх, так і апошняга "клопату". Гэта – таксама эфэкт, але ці той, што патрэбен грамадзтву?**

**На паседжаньні аблвыканкаму абвешчана, што запазычанасьць людзям па заробках у сельскай гаспадарцы складае амаль паўмільярды рублёў. Хто яе разьбярэ, тую афіцыйную статыстыку! Колькі дзён таму было больш мільярда, а вось ужо і палова. Цяпер чакай, калі гэта адаб'ецца на інфляцыі і коштах. Аднак тут самае галоўнае выбары, якія "мы не маем права прайграць" (Лукашэнка).**

**У Магілёве зьявіліся ўлёткі, якія агітавалі грамадзянаў галасаваць за Сямёна Домаша. Вось яна, першая ластаўка так званых брудных выбарчых тэхналёгіяў. Пакуль Домаш (альбо хто іншы) не зарэгістраваны як афіцыйны кандыдат, нельга весьці агітацыйную працу. Сямён Домаш апэратыўна адрэагаваў на гэта ў сваёй заяве ў Цэнтарвыбаркам, папярэдзіўшы, што ня мае ніякіх адносінаў да акцыі і лічыць яе правакацыяй. Колькі іх яшчэ будзе супраць кожнага з магчымых кандыдатаў, асабліва – дэмакратычна настроеных...**

**Магілёўская праваслаўная япархія пачала збудаваньне новага і шыкоўнага катэдральнага сабору. Ён будзе непадалёк ад Пушкінскага праспэкту. На добрую справу зьбіраюцца дабрачынныя грашовыя ахвяраваньні, што ў справах духовых мае асаблівы сэнс. Але грошай, відаць, няшмат – такое жыцьцё. Дапамагчы вырашыла ўлада, аднак даволі дзіўным чынам. Па-просту загадала прадпрыемствам скінуцца на храм па 3 млн. руб. Здарылася гэта, нагадаем, у краіне, дзе царква аддзеленая ад дзяржавы, а духовы сьвет – ад цывільнага грамадзтва, дзе існуе некалькі рэлігійных роўных у правах канфэсіяў. Але кіраўнік краіны спрыяе толькі адной царкве, бо заснае сябе хоць атэістам, але атэістам праваслаўным (гэта таксама цытата).**

**Барацьба з наркатычным злом набывае ў краіне па маштабах характар вайсковых дзеяньняў. Штотыдзень паведамляецца пра затрыманых, арыштаваных і асуджаных, пра канфіскацыі і зьнішчэньне буйных і малых партыяў небясьпечнага зельля. Днямі ў абласным цэнтры, Бабруйску і Быхаве былі затрыманыя людзі за ўжываньне наркотыкаў. А ў магілёўскую гарадзкую лякарню быў дастаўлены ў непрытомным стане 35-гадовы мужчына з дыягназам "перадазіроўка".**

**Паводле старшыні Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Тамары Чобатавай, найбольшую запазычанасьць перад настаўнікамі мае наша вобласьць. Да таго ж нярэдка адпускныя выплочваюць часткамі, што не дазваляе людзям пабудаваць адпачынак. Шмат у якіх раёнах, у прыватнасьці, Быхаўскім, Крычаўскім, Мсьціслаўскім, Глускім, Дрыбінскім, настаўнікаў увогуле запрашаюць за адпускнымі толькі праз 2 месяцы.**

**У Крычаве, паводле паведамленьня незалежнай газэты "Вольны горад", міліцыя правяла пэратрус у прыватным музэі, што арганізаваў і ўтрымлівае Аляксандар Радзько. 25-гадовы крычаўлянін з 95-га года займаецца зборам дакумэнтаў і экспанатаў ваенных гадоў. У прыватным музэі каля 200 экспанатаў. Тут ёсьць вайсковае адзеньне, іншыя рэчы. Ёсьць і зброя, зразумела, абясшкоджаная. Свае экспанаты Аляксандар здабывае сам падчас штогадовых экспэдыцыяў па месцах баёў Другой сусьветнай вайны. Міліцыя раптоўна зацікавілася менавіта зброяй, пры чым зрабіла гэта ва ўласьцівай ёй "ветлівай форме". Грамадзкасьць горада справядліва зьдзіўляецца таму, што міліцыя установай зацікавілася менавіта цяпер, напярэдадні выбараў. Некаторыя адкрыта зазначаюць: каб дадаць страху.**

**Мінулым тыднем ледзь не заліла вадой магілёўскі "Саюздрук". Паводкі ў нас не было, вялікага дажджу таксама. Тут справы камунальныя. Быў тое дэфэкт якой "ліўнёўкі" альбо закапаных трубаў – пакуль невядома. Ніхто не адгукнуўся на тэлефанаваньні пра аварыю: ні камунальнікі, ні дарожнікі. Супрацоўніцы самі ратавалі сябе і маёмасьць (у асноўным, папяровую) як маглі. Бо адусюль чулі: ня нашая справа! Цікава ўсё ж – а чыя!?**

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

## Спадзеў на сумленнасьць

***Днямі сябры аргкамітэту палітычнага руху "За новую Беларусь" прынялі зварот да выбарцаў, у якім папярэджваюць пра небясьпеку фальсыфікацыі прэзыдэнцкіх выбараў уладамі ды заклікаюць падтрымаць альтэрнатыўных сёньняшняму кіраўніку кандыдатаў на прэзыдэнта.***

Сярод падпісантаў – вядомыя ў Беларусі грамадзкія і палітычныя дзеячы: Васіль Лявонаў, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Людміла Карпенка, Вячаслаў Оргіш ды інш. Таксама падпісалася пад зваротам кааліцыйная кандыдацкая "пяцёрка". Аўтары звароту папярэджваюць, што цяперашні рэжым ня будзе саромецца брудных мэтадаў дзеля захаваньня ўлады. Адзначаецца, у прыватнасьці, што актыўна падбіралі кандыдатаў для выбарчых камісіяў супрацоўнікі мясцовых упраўленьняў КГБ, і рабілі яны гэта паводле прынцыпу "асабістай адданасьці" правадыру. У звароце нагадваецца, што падобны сцэнар выбараў краіна ўжо зьведала ў кастрычніку мінулага году, калі абіралася "палата прадстаўнікоў". Калі ўсё пойдзе так і далей, мяркуюць падпісанты, то Беларусь канчаткова развaліцца й страціць сувэрэнітэт.

Напрыканцы звароту ўтрымліваецца заклік да патэнцыйных кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта, каб тыя актыўна супрацíўляліся парушэньням прынцыпаў дэмакратычнасьці й адкрытасьці падчас правядзеньня выбараў. Як заўважыў Генадзь Бураўкін, вельмі хочацца, каб гэты зварот людзі пачулі й задумаліся над лёсам краіны...

*Ігар КАРНЕЙ*

## Беларуская будзённасьць: хто тут сябра, хто працаўнік?..

***21 чэрвеня ў выбарчым штабе Сямёна Домаша адбылася прэс-канфэрэнцыя з нагоды старту кампаніі па збору подпісаў.***

У ініцыятыўнай групе Домаша – 3695 чалавек. Гэта моцная арганізаваная група, асабліва ў рэгіёнах. У яе складзе прадстаўнікі партыяў, грамадзкіх рухаў і недзяржаўных аб'яднаньняў, прафсаюзных арганізацыяў. Пра сваю згоду ўсяляк падтрымліваць Домаша заявілі вядомыя людзі: Людміла Карпенка, Юры Хашчавацкі, Уладзімер Кудзінаў, Аляксандар Дабравольскі.

Камэнтуючы факт зьяўленьня ажно 22 прэтэндэнтаў на вышэйшую ў краіне пасаду, С.Домаш сказаў, што за сем гадоў магла выстраіцца й не такая чарга, бо шмат людзей прагне пераменаў. Аднак пры гэтым сп.Домаш выказаў сваю насьцярожанасьць з нагоды прэтэнзіяў Зянона Пазьняка. Ён заявіў, што паводле ўсіх існуючых юрыдычных правілаў групу З.Пазьняка ня можна было рэгістраваць, бо прэтэндэнт ужо некалькі гадоў жыве за межамі Беларусі. Домаш падкрэсьліў сваю думку, што "Пазьняк – такі ж харызматычны чалавек, і такі ж разбуральнік, як і Лукашэнка. Яны – два боты-пара, толькі адзін на Захадзе, а другі глядзіць на Ўсход".

Адказваючы на пытаньне аб магчымых зьменах у стратэгіі "пяцёркі" кандыдатаў ад аб'яднанай апазыцыі, Домаш зазначыў, што агульная мэта – зьмена існуючага рэжыму. "Калі на мяне выпадзе роля адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў, я гатовы прыняць гэтую ролю ў поўнай меры і поўным аб'ёме", – сказаў С.Домаш. Таксама ён ня выключыў магчымасьці таго, што М.Марыніч *(раней міністар, а зараз амбасадар у Латвіі – рэд.)* "увойдзе ў склад шырокай дэмакратычнай кааліцыі, якая будзе супрацьдзейнічаць рэжыму Лукашэнкі".

На пытаньне аб магчымым дачыненьні беларускіх уладаў да зьнікненьняў вядомых людзей С.Домаш зазначыў, што паказальным ёсьць маўчаньне Генэральнага пракурора В.Шэймана ў адказ на вядомую гучную заяву сьледчых Петрушкевіча і Случака. Ён заўважыў, што адно з рэальных "дасягненьняў" улады за 7 гадоў кіраваньня Лукашэнкі – гэта зьяўленьне ў Беларусі групы забойцаў, якія займаюцца зьнішчэньнем небясьпечных для рэжыму людзей. Нечаканы візыт Лукашэнкі ў Маскву 20-21 чэрвеня Домаш патлумачыў тым, што "кіраўніцтву Расеі даўно надакучылі выбрыкі беларускага прэзыдэнта, і яму, хутчэй за ўсё, прапанавалі зручную пасаду ў рамках Саюза...".

*Паводле прэс-рэлізу групы падтрымкі С.Домаша*



## Калі б не прыватнікі

***Кожны горад мае сваю адметнасьць. Для Крычава такой адметнасьцю ёсьць яго працяглась забудовы. 30-тысячны горад выцягнуўся ўздоўж Сожу на 14 кт. Таму каб забясьпечыць рытмічную работу прадпрыемстваў і установаў, неабходна трымаць даволі вялікі парк аўтобусаў. І вось тут пачынаюцца праблемы.***

Асноўны цяжар перавозак людзей па гораду лёг на старэнькія "Ікарусы". Гэтыя машыны былі набытыя ў Маскве яшчэ на пачатку 90-х. Іх рамантавалі, яны доўга рыпелі на крычаўскіх дарогах. Але зараз аўтобусы, як кажуць, дыхаюць на ладан. У раённым бюджэце няма грошай на чарговы капітальны рамонт, як і на салярку ці бэнзын. Па дзьве-тры гадзіны чакаюць крычаўцы на прыпынках. А каб зьехаць з гораду на вёску, на аўтавакзале трэба адседзець цэлы дзень.

З гэтай сытуацыі ўдала скарысталіся канкурэнты. Менш чым за год ліцэнзіі на права перавозкі пасажыраў атрымалі больш за дваццаць прыватнікаў. Людзі задаволеныя паслугамі прыватных таксовак, бо паездка ў іх каштуе даволі танна – усяго 100 рублёў.

Мясцовыя ўлады тым часам прыдумалі выйсьце са складанага становішча. Амаль на ўсё лета яны адмянілі 14 рэйсаў па гораду, зьменшылі ці зусім адмянілі рух аўтобусаў па прыгарадных маршрутах. Больш таго, улады пайшлі на непапулярны крок. Яны ўвялі ў выходныя і сьвяточныя дні экспрэсы, квіток на праезд у якіх каштуе тыя ж 100 рублёў, як і ў прыватнікаў, праўда, з захаваньнем пэўных ільготаў. Апраўдалі ўсе гэтыя новаўводы тым, што цяпер малы паток пасажыраў і скончыўся навучальны год у школах. Аднак пра тое, што папросту няма грошай у раённым бюджэце – улады прамаўчалі.

Было праведзенае й яшчэ адно мерапрыемства. Намесьнік старшыні выканкаму па эканоміцы сп.Кніга паразмаўляў з прыватнымі таксістамі. Падчас сустрэчы ён прапанаваў ім "закрыць сабой" два найбольш працяглыя і нерэнтабільныя аўтобусныя маршруты. Але перакінуць праблему з хворай галавы на здаровую не ўдалося. Не дапамаглі ні абяцанкі, ні пагрозы, бо маршруты гэтыя для прыватнікаў таксама невыгодныя.

*Андрэй КУЗЬМІН*

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...зь Бялынічаў



*Напрыканцы мінулага тыдня на запрашэньне мясцовай суполкі "Маладой Грамады" у горад завіталі вядомы пісьменьнік Уладзімер Арлоў і бард, аўтар газэты "Наша Ніва" Зьміцер Бартосік.*

На сустрэчы прысутнічала больш за паўсотні бялынічанаў усіх узростаў, але большую частку складала моладзь. Госьці распавялі пра свой творчы лёс, выканалі ўласныя творы, падзяліліся задумамі, адказалі на шматлікія пытаньні. Таксама прысутныя мелі магчымасьць набыць як кнігі Ў.Арлова, так і запісы З.Бартосіка.

*Каля 50 гараджанаў праявілі цікавасьць да сэмінару па назіраньні за выбарамі, што пройдуць 9 верасьня.*

Карысныя лекцыі прачыталі Сяргей Абадоўскі і Аганэс Мурадзян. Набытыя веды ўдзельнікі сэмінару замацавалі падчас практычных заняткаў.

**Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ**

### ...з Горак

*У горадзе за адзін дзень быў зьнішчаны месячны запас гарэлкі. Сьвяткавалі Дзень моладзі й выпускныя школьныя балы.*

Спачатку у Дзіцячым парку былі конкурсы па графіці, брэйк-дэнсу і скейтбордынгу. Потым пад медны звон труб дзь літаўраў над галоўным праспэктам разьліўся бравурны туш савецкіх часоў. Выдатнікі вучобы на плошчы Якубоўскага атрымалі свае мэдалі ды граматы. Больш за іншых адчулі сьвята працаўнікі адпаведных крамаў, куды ўсю ноч "не зарастала народная тропа".

*24 чэрвеня падчас рок-канцэрту перад палацам культуры Акадэміі была затрыманая дзяўчына.*

Яна раздавала зарэгістраваную газэту "Рабочы". Міліцыянты, якія не прадставіліся, спачатку завялі яе ў пастарунак, дзе склалі пратакол, а потым адканваіравалі дадому.

*Зараз па раёне штодзень разьліваецца каля 600 кубічных мэтраў фэкаліяў. Улады пляную́ць павялічыць пагалоўе Тушкаўскага комплексу-гіганту...*



Справа ў тым, што сыстэма ачысткі стокаў з фэрмы ніколі не працавала, таму што была недабудаваная. Аднак гэта не перашкодзіла запусьціць комплекс! Возера, што знаходзіцца блізу фэрмы, ужо памерла, калодзежы ў вёсцы Чарны нагадваюць грамадзкія прыбіральні. І гэта толькі пачатак...

*Цікавым спосабам зарабляюць на жыцьцё горацкія жыхары, што жывуць блізу лесу.*

Раз-пораз вялізныя фуры зь бярвеньнямі, што едуць у Расею, спыняюцца ня лясных беларускіх сьцяжынках. Колы фураў трапляюць на "ямы" – прыстасаваньні, выробленыя з вострых кавалкаў сялянскіх вілаў. А мясцовыя жыхары за пэўную плату заўжды гатовыя дапамагчы недарэчлівым бедалагам.

**Віктар КАРАЛЬКОЎ**

### ...з Мсьціслава



*Напярэдадні Дня Беларускай пісьменнасьці й друку, што адбудзецца ўвосені, тут павінен зьявіцца чарговы помнік Пятру Мсьціслаўцу.*

Рэч у тым, што непадалёк мсьціслаўскай школы №1 ужо стаіць помнік знакамітаму першадрукару. Месцам для ўстаноўкі другога абраная цэнтральная плошча горада – насупраць увахода ў райвыканкам. Так што калі раней у горадзе ці мястэчку ставілі некалькі Ленінаў, то зараз – дзеячоў беларускай культуры. Дзякуй Богу, дачакаліся.

### ...з Крычава

*Зараз у горадзе гучаць два прозьвішчы: Домаш і Лукашэнка. Менавіта ініцыятыўныя групы гэтых патэнцыйных кандыдатаў на прэзыдэнта найбольш актыўныя.*

У камандзе Домаша каля 40 чалавек – актывістаў апазыцыйных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў ды проста дымакратычна настроеныя грамадзяне.

Каманда Аляксандра Рыгоравіча складаецца з пэнсіянэраў-камуністаў, інжынэрна-тэхнічных работнікаў прадпрыемстваў ды мелкага чынавенства. Па вёсках подпісы за Лукашэнку зьбіраюць сакратаркі вясковых саветаў.



*За чатыры месяцы года ў раёне гвалтоўнай сьмерцю памёр 21 чалавек.*

Сапраўды, нябожчыка ў нас можна знайсьці дзе заўгодна: на вуліцы, у школе, на калгасным полі, сярод рэшты згарэўшай хаты, у кар'еры ці ў саседзкай кватэры. Найбольш гінуць людзі падчас "высьвятленьня адносінаў" паміж сабой у нецьвярозым стане. Даволі часта – у дарожна-транспартных здарэньнях, на пажарах, на вадзе, на вытворчасьці, у выніку самагубства...

**Андрэй КУЗЬМІН**

---

**Год таму, 7 ліпеня 2000 г. зьнік наш калега, вядомы тэлеапэратар**

## Дзьмітры Завадзкі

***Грамадзтва не забылася. Грамадзтва патрабуе адказу і пакараньня вінаватых!***

Хутка год, як ягоная сям'я пазбаўленая бацькі і мужа. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзьмітрыя Завадзкага і даслаць ахвяраваньні на разьліковы рахунак Сьвятланы Міхайлаўны Завадзкай. Калі ласка, абавязкава пазначайце прызначэньне плацяжу:

**АХВЯРАВАННЬЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗЬМІТРЫЯ ЗАВАДЗКАГА.**

Рэквізыты банка-атрымальніка:

Рахунак для ахвяраваньняў у валюце:

PRIORBANK

Minsk V.Horuzhey str.31-A

SWIFT Code: PJCB BY 2X

3134125305029

Атрымальнік: **Sviatlana Zavadskaya**

Рахунак для ахвяраваньняў у беларускіх рублях:

Р/р 3134125300011,

"Пріорбанк" ОАО, код 749

Атрымальнік: **Сьвятлана Міхайлаўна Завадзкая**

---

## Усё было вырашана яшчэ да паседжаньня?..

### ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



***Мы паведамлялі пра тое, што ў абласным цэнтры і фактычна ва ўсёй вобласьці ў склады выбарчых камісіяў не былі дапушчаныя прадстаўнікі дэмакратычных партыйных і грамадзкіх структураў. Сталася таксама вядомым, што ў камісіі не патрапілі і тыя незалежныя грамадзяне, якія скарысталіся рэкамэндацыямі суседзяў, калегаў, сяброў – такіх жа як і самі "простых" выбаршчыкаў. Зазначым, што менавіта такі шлях ва ўсім сьвеце прызнаецца за самы справядлівы і дэмакратычны. Але ня ў нашай краіне, хаця "дэмакратыі ў нас больш, чым ва ўсёй Эўропе" (цытата, наколькі нам помніцца).***

***Ня ўсе пакорліва пагадзіліся зь нематываваным адхіленьнем сваёй кандыдатуры, давер да якой некалькі дзясяткаў людзей пацьвердзілі сваімі подпісамі. Працягвае змаганьне за годнасьць, канстытуцыйныя правы і павагу да сябе і тых, хто выказаў яму свой давер, магілёвец Міхась Булавацкі. Падаем ягоную заяву на імя пракурора раёна, зь якой шмат што яскрава бачна.***

**Пракурору Цэнтральнага раёна г.Магілёва**

**ЗАЯВА**

**аб парушэньні Канстытуцыі і Законаў Рэспублікі Беларусі**

12 чэрвеня 2001г. мною асабіста была перададзеная ў Магілёўскі гарвыканкам заява 37 выбаршчыкаў аб вылучэньні мяне ў якасьці іх прадстаўніка ў склад Цэнтральнай раённай камісіі г.Магілёва па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі. Заява была прынятая галоўным спэцыялістам агульнага аддзела гарвыканкама Лазарэнкай Ж.Э. і зарэгістраваная пад нумарам 2180. На маё пытаньне, калі будуць разглядацца пададзеныя заявы, спн.Лазарэнка прапанавала мне зьвярнуцца да супрацоўніцы аддзела арганізацыйна-кадравай працы Вігуры Н.В. Спн.Вігура патлумачыла, што рашэньне аб фарміраваньні камісіяў павінна быць вырашана да 20 чэрвеня й менавіта на 20-ае заплянаванае чарговае паседжаньне прэзыдыюму гарвыканкама. 20 чэрвеня я даведаўся, што рашэньне аб стварэньні выбарчых камісіяў прынятае 18 чэрвеня й што мая кандыдатура ў склад камісіі не патрапіла. На пытаньне, чаму мяне не запрасілі на паседжаньне гарвыканкама, загадчык аддзела арганізацыйна-кадравай працы гарвыканкама Белавусаў А.М. адказаў мне, што "не абавязаны былі гэта рабіць". Я папрасіў азнаёміць мяне з пратаколам паседжаньня, але сп.Белавусаў сказаў, што ў ім ня будзе нічога, акрамя тэкста рашэньня аб стварэньні камісіяў, які будзе надрукаваны ў газэце "Веснік Магілёва". Не далі мне азнаёміцца і з дакумэнтамі, прадстаўленымі тымі людзьмі, якія ўвайшлі ў склад выбарчых камісіяў.

У гарвыканкам былі пададзеныя заявы ад 59 грамадзянаў аб уключэньні іх у раённыя выбарчыя камісіі горада Магілёва. На аснове гэтых заяваў створаныя тры раённыя камісіі па 13 чалавек у кожнай. Прыблізна трэцяя частка ўсіх заяваў была адхіленая. З пададзеных 59 заяваў 3 заявы былі афармленыя на беларускай мове, астатнія на рускай. Адпаведна прынцыпу роўнасьці беларускай і рускай моваў, як таго патрабуе Закон, натуральна было чакаць, што ў склад выбарчых камісіяў горада будуць уключаныя (на падставе прапарцыянальнай справядлівасьці) як меней 2 беларускамоўных грамадзяніна. Гарвыканкам і прэзыдыюм гарсавета парушылі прынцып роўнасьці моваў: уключылі ў склад камісіяў **толькі** тых прадстаўнікоў, чые заявы былі афармленыя **на рускай мове**. Гэта зьяўляецца грубым парушэньнем артыкула 6 Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусі і артыкула 6 Закона аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусі.

Адпаведна вышэйпададзенаму я, грамадзянін Рэспублікі Беларусі, абураны грубымі парушэньнямі Канстытуцыі і Законаў Рэспублікі Беларусі, **патрабую:**

1. Прыняць меры пракурорскага рэагаваньня да асоб, якія парушаюць Канстытуцыю і Законы Рэспублікі Беларусі.

2. Забясьпечыць мае правы на атрыманьне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі па арганізацыі і правядзеньні кампаніі па выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі, гарантаваныя артыкуламі 34 і 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі і артыкулам 13 Выбарчага Кодэкса Рэспублікі Беларусі.

3. Унесьці пратэст на сумеснае рашэньне гарвыканкама і прэзыдыюма гарсавета па стварэньні раённых выбарчых камісіяў у г.Магілёве ў сувязі з тым, што гэтае рашэньне парушае артыкул 6 Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусі і артыкул 6 Закона аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусі.

**М.БУЛАВАЦКІ**

**22 чэрвеня 2001 года**

***Вось такі дакумэнт. Што тут скажаш? Можна толькі паўтарыць пытаньне, вынесенае ў загаловак карэспандэнцыі. Ды ці пытаньне гэта... Аднак, можа варта пачакаць адказу з пракуратуры.***



## Разам з продкамі

У мінулыя выходныя, а менавіта на дзень летняга сонцазвароту, некалькі моладзевых аб'яднаньняў з Магілёву, Бялынычаў ды гасьцей з Гомлі адзначылі Купальле.

Месца было абранае на рачулцы Друць, блізу вёсачкі Адраджэньне. Арганізатарамі, як і ў мінулым годзе, сталіся сябры магілёўскага моладзевага аб'яднаньня "Агмень". Гэтым разам быў прадуманы як мага больш дакладны сцэнар сьвята. На радасьць моладзі, дзея зацікавіла і мясцовых маладых жыхароў, якія далучыліся да сьвяткаваньня і нават развучылі некаторыя народныя танцы.

А пачалася імпрэза з абрадавай стравы, калі кожны з удзельнікаў выказаў свае пажаданьні ўсім прысутным. Былі сьпевы, танцы, гульні, купаньне ў рэчцы. Усё гэта суправаджалася вясёлым добрым настроем, усьмешкамі ўдзельнікаў. Потым былі скокі праз купальскае вогнішча, абраньне Купалінкі й выкраданьне яе чарцямі... Скончылася сьвята на сьвітанку, і нават дождж, што пайшоў пад раніцу, не сапсаваў цудоўнага настрою!

*Дзяніс НОВІКАЎ*

*Фота аўтара*



СЛОВА ДА ЧЫТАЧОЎ

## Такая ў нас наканаванасьць

Гэтым нумарам "ТМ" мы вымушаныя сказаць сваім чытачам, сябрам і прыхільнікам грамадзка-творчай канцэпцыі газэты чарговае слова на разьвітаньне. Спадзяемся, што працягнецца яно зусім кароткі час і мы сустрэнемся якраз у самы гарачы пэрыяд прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. А пакуль вы, нашы шаноўныя сябры, вызначыцеся з подпісамі за таго ці іншага кандыдата, прыміце рашэньне пра ўдзел ці няўдзел у кампаніі, а тое і проста крыху адпачнеце. Усё ж на двары лета, заўсёды чаканае і заўсёды кароткае...

Мы ж зоймемся перарэгістрацыяй. Улада, як бачым, прыгадала яе якраз на той жа самы гарачы для грамадзтва пэрыяд. З 1-га ліпеня рэгістрацыя, якую мы маем зараз, цяпер састарэла і патрабуецца новая. Гэтая бюракратычная працэдура (ня ў крыўдным для чыноўнікаў сэнсе, а ў самым прамым) запатрабуе хаджэньня па кабінэтах, зьбіраньня і прадастаўленьня адпаведных шматлікіх папераў, перамоваў і гутарак з дзяржаўнымі службоўцамі. На ўсё спатрэбіцца свой час, бо чынавенства нашае традыцыйна працуе па выслоўю: "вас многа, а я адна...". Акрамя таго, цяперашняя перарэгістрацыя ўвязаная з абавязковым узгадненьнем з гарвыканкамам адрасу і месца разьмяшчэньня рэдакцыі. Гэтая перашкода для вольнага слова ці ня самая істотная, бо рэзалюцыя "адмовіць" таксама адна з самых у нас традыцыйных. Менавіта аб яе ўжо спатыкнуліся некаторыя нашыя калегі ў сваіх гарадах. Аднак спадзяемся, што наш горад ня стане рэзэрваваць сабе месца сярод тых, дзе пры ўладзе папросту нецывілізаванае кіраўніцтва.

Такім чынам нам застаецца прайсьці: гарвыканкам, падатковае ўпраўленьне, міліцыю (для пячаткі), банк (для рахунку), Дзяржкамдрук... Міжволі падумалася, што й краіна наша ідзе па сваім гістарычным шляху і часе няроўна і "лябірынтна", зь перапынкамі і перашкодамі – але ідзе! Можа, ня так гэта і дрэнна – быць ва ўсім са сваёй краінай?..

Да сустрэчы!

**Рэдакцыя і заснавальнік "ТМ"**



## Паважанае спадарства!

**У плянах** Радыё Рацыя **й** Deutsche Welle **радыёмост зь пісьменьнікам Васілём Быкавым, які цяпер знаходзіцца ў Нямеччыне. Кожны з Вас мае магчымасьць зьвярнуцца да мудрага й мужнага спадара Быкава, каб запытацца пра нешта значнае для краіны й нашае будучыні па Інтэрнэце. Вашыя пытаньні мы перададрасуем шаноўнаму спадару Васілю Быкаву.**

***Наш адрас: WWW.racyja.pl***

Заўтра, у суботу, у магілёўскай гарадзкой бібліятэцы мяркуецца правесьці сустрэчу чытачоў і цікаўных гараджанаў з прафэсарам гісторыі Анатолем Грыцкевічам, навукоўцам і старшынём ТБМ Алегам Трусавым, заслужаным дзеячам культуры Валянцінам Ермаловічам. Сустрэча прызначаная а 15-й гадзіне.

### Бясплатныя абвесткі

Шаноўнае спадарства!

Вас шчыра запрашае новая майстэрня па рамонту і пашыву абутку.

Майстэрня месьціцца ў Цэнтральным Доме быту на 4-м паверсе.

Мы працуем звычайна з 9-00 да 19-00, а ў суботу з 9-00 да 15-00.

У панядзелак – выходны.



Малады менскі мастак Генік ЛОЙКА аднолькава адданы праўдзе старажытнай гісторыі краіны і творчым фантазіям на тэмы беларускай адметнасьці. У магілёўцаў ёсьць магчымасьць у гэтым увачавідкі пераканацца, а тое й прыняць непасрэдны ўдзел у дзействе, якое адбудзецца на беразе Сьвятога возера. Праз колькі часу карпатлівай творчай працы перад намі паўстане Машэка – зь пяску, але ў рэальным (паводле мастака) аблічны...

Усё астатняе – на плякаце.





Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская,
6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net


Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 5. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 28.06.2001 г. а 17.10.